Чытач працягвае размову

# Дык навучымся сябе паважаць!

*Зноў звяртаюся праз газету да намесніка старшыні Калінкавіцкага райвыканкама Ніны Іосіфаўны Пракапенка.*

*Паважаная Ніна Іосіфаўна! Давайце адразу ўдакладнім, што я звяртаюся менавіта да Вас, той самай настаўніцы, якую па выніках педагагічнага плёну ў Калінкавіцкай сярэдняй школе №6 можна было б назваць "змагаром руху за Адраджэнне нашай Бацькаўшчыны", — словы К.Кушнер ("НГ" ад 2 лістапада 2001 г.). Я не аспрэчваю і іншых высокіх і яркіх эпітэтаў гэтай настаўніцы, аднесеных на Ваш рахунак. Няхай сабе і так.*

Але ж я звяртаюся да асобы, якая ўчора была той настаўніцай і тым "змагаром", а сёння ўжо, перапрашаю, — намеснік старшыні райвыканкама і нясе на сабе іншыя функцыі і іншую адказнасць за адукацыю і выхаванне дзяцей у раёне. І таму Вы, Ніна Іосіфаўна, не мае рацыі, калі ў тым жа нумары газеты за 2 лістапада сцвярджаеце: "...я там таксама была, як і Вы, госцем".

Гэты погляд не адпавядае тым акалічнасцям і напаверку ён зманлівы. Вы былі перш-наперш службовай асобай, што, спадзяюся, засведчыць і Ваша начальства. Набярыцеся мужнасці, прызнайцеся сабе ў гэтым, і тады Вы не будзеце прадстаўляць справу так, як бы да Вас тут звяртаюцца не па адрасе. Не трэба ўпадаць у мімікрыю. Дамовіліся? Я звяртаўся і звяртаюся да Вас як да афіцыйнай асобы і толькі па пытаннях, якія маюць быць у Вашай кампетэнцыі.

Ваш адказ у "НГ" яшчэ болей азадачыў мяне. Бо прэстыж, які Вы мелі ў сярэдняй школе №6, ніякім чынам не тлумачыць Вашых індэферэнтных адносін да тых хаўтур па роднай беларускай мове, якія былі наладжаны ў Хаміцкай школе. Наадварот, чым вышэй раскрываецца Ваш ранейшы прэстыж, тым цяжэй зразумець і апраўдаць Ваша "гасцяванне", як і жаданне пры гэтым зняць з сябе ўсялякую адказнасць за прадэманстраваную дэнацыяналізацыю школы.

Звернемся да некаторых іншых пазіцый Вашага ліста ў рэдакцыю.

Цытую. "Чаму сама не заўсёды і не ўсюды размаўляю на беларускай мове? Ды таму, што лічу: трэба гаварыць з суразмоўцам на той мове, каб яго не пакрыўдзіць, на якой яму зручней, іншая справа, калі таго патрабуюць абставіны і мэты..." /канец цытаты, шматкроп'е Ваша/.

І тут кароткую і, здавалася б, чыстую, ясную тэзу сваю Вы патапілі ў тумане.

Па-першае, звяртаючыся да Вас, я не сцвярджаў, што Вы павінны скрозь і паўсюдна размаўляць на роднай мове, хоць ёсць нямала інтэлігентаў, дый вучняў, якія гэтак робяць.

Па-другое, мілая і шаноўная прадстаўніца ўлады Ніна Іосіфаўна! Вы прыехалі ў старэйшую ў рэспубліцы Хаміцкую беларускамоўную школу, якая на сённяшні дзень павінна б з'яўляцца эталонам, апорай, так бы мовіць, рэперам беларускасці ў Беларусі. Чаму ж з настаўнікамі гэтай тэарэтычна адмысловай школы вы не загаварылі на беларускай мове? Або Вы віталіся з імі і гаварылі па-беларуску, а яны з Вамі — па-руску. Тады, каб не пакрыўдзіць іх, Вы таксама перайшлі на "больш зручную" для іх мову? Як было на справе?

Можна толькі захапляцца Вашым вытанчаным тактам, але ж думаю, што ініцыятыва ў карыстанні рускай мовай ў сітуацыі, калі "абставіны і мэты" вымагалі ад Вас якраз адваротнага, зыходзіла ад Вас. Перакананы! Бо нельга ўявіць, каб падначаленыя, педагогі, якія валодаюць беларускай мовай, набраліся столькі нахабства, што не падтрымалі Вас, калі б ва ўзаемінах з імі Вы карысталіся роднай мовай; яны ж таксама людзі выхаваныя. Дый ведаюць такт.

Ведаеце, тут мы зноў выйшлі на з'яву, якая ўсхвалявала мяне на той святочнай імпрэзе. Больш за тое, яна даўно мяне хвалявала і хвалюе. Бо навідавоку своеасаблівая культурная і маральная пошласць. От як выб'ецца каторая асоба з народа ў начальнікі, так і пачынае ламаць язык, выступаць па-руску. Класічны прыклад, бадай, апісаны мной у кнізе "Вясковыя дыспуты".

Недзе ў 1983 годзе мы з Іванам Васільевым, слынным савецкім публіцыстам, падарожнічалі па Беларусі. У вёсцы Сівіца Валожынскага раёна нам спадобілася прысутнічаць на ранішняй нарадзе спецыялістаў калгаса "Рассвет". Вёў рэй старшыня, адзін ён — на рускай мове. Усе спецыялісты, пачынаючы ад агранома і канчаючы брыгадзірам, гаварылі на чысцейшай мове беларускай, прыгожай, яркай, каларытнай. Такая яна там. Яны нязмушана, вольна і чынна выказваюць свае думкі, а старшыня гэтак не можа, бо ён начальнік, ён ужо папрацаваў у райкаме партыі і таму аддаваў у размове перавагу трасянцы. У выніку боўтаўся ён паміж моўнымі берагамі.

І вось гэта выраджэнне і беззваротнае выпадзенне з уласцівай народу культуры (а яно ж тады ўсяляк падтрымлівалася ўладамі), набыло прыкметы духоўнай хваробы і памеры нейкай вынішчальнай эпідэміі. Ці чулі Вы хоць што-небудзь пра гэткую тэндэнцыю ў грамадстве?

Наступны момант... Ставіцца, бадай, рытарычнае пытанне: "Ці маем мы сёння права патрабаваць ад некага размаўляць на латыні?" Тым самым Вы ставіце знак раўналежнасці паміж беларускай мовай і латынню. Некарэктна! Бо, згодна з апошнім перапісам насельніцтва, Беларусь насяляюць больш за 18 працэнтаў беларусаў. Уявіце: 3700000 чалавек дома карыстаюцца беларускай мовай, у тым ліку 500000 небеларусаў. Гэта азначае, што беларуская мова пакуль яшчэ не выйшла з паўсядзённага ужытку. А Вы пра латынь.

У нейкай меры падаецца мне справядлівай Ваша скарга на тое, што аб школе, вучнях, настаўніках мала вершаў, песень і іншых твораў на беларускай мове. Толькі ж пра гэта, мне думаецца, павінны дбаць не толькі паэты, музыкі, але і Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Толькі ж, вяртаючыся ў Хаміцкую школу, паставім пытанне інакш. Ці шмат намаганняў спатрэбілася б настаўніку, каб перакласці разам з вучнямі даволі прымітыўныя дыялогі школьнай сцэнкі з рускамоўнага часопіса на беларускую мову і адаптаваць іх да жыцця сваёй школы? Або што замінала вучням нацыянальнай школы весці школьны канцэрт на роднай мове?..

Дарэчы, кажуць, ёсць тэорыя малых спраў. Не ведаю, колькі ў той тэорыі навукі, а вось практычны сэнс ёсць. Калі нельга адразу ўсё перайначыць, змяніць, давесці да ладу, то кожны бярэ на сябе акурат тое, што можа зрабіць і робіць. У мурашоў, напрыклад, калі яны будуюць свае лабірынты, харомы, ніхто не робіць усё за ўсіх і адразу. Пэўна, у іх няма і таго, каб адзін спадзяваўся на аднаго, другі — на трэцяга і г.д. Кожны выконвае сваё, нясе сваю ношку. Адсюль і вынік.

Чаго ж настаўнікам нестае, каб карыстацца роднай мовай і вучыць таму ж — смеламу, мудраму і мужнаму па сённяшнім часе — карыстанню мовай продкаў і сучаснікаў?

Чаго бацькам нестае, каб, карыстаючыся сваімі ўяўленнямі аб чалавечай культуры і годнасці беларуса, не вывучыць сваіх дзяцей валоданню моўным скарбам?

Няхай я нават на яе, родную мову, забыўся, але ж сын ці дачка мае могуць далучыцца да нацыянальных духоўных каштоўнасцей.

Дык навучымся ж гаварыць сваёй мовай і сябе паважаць! Таму няхай кожны зробіць крок у гэтым напрамку, свой крок, сваю маленькую справу. І Вы, Ніна Іосіфаўна, таксама.

Нарэшце, што азначае загалавак Вашага ліста ў рэдакцыю: "Вырakліся не толькі беларускай мовы..." /Зноў жа ў канцы фразы шматкроп'е/. А што за ім?.. Я ўважліва прачытаў ліст і не знайшоў больш нічога, што стаяла б за тым словам "не толькі". Таму мушу дадумваць.

У Вашым звароце ў рэдакцыю і да мяне патанула ў тумане ваша пазіцыя... Так, пазіцыя настаўніцы, патрыёткі, ваяра за адраджэнне Бацькаўшчыны. Калі ўсё гэта было, то куды падзелася? Я не дабяру адказу на гэта пытанне, і таму мне сумна ад тых страт, якія Вы, пэўна, панеслі, а разам з Вамі і ўсё шматпакутнае наша грамадства. Ці ж не так?

Прабачце за адкрытыя і ў пэўным сэнсе крутыя меркаванні.

**Васіль ЯКАВЕНКА.**

# "На кожнай сцяжынцы іх песня і голас..."

***Прачытаўшы публікацыю ў "Настаўніцкай газеце" "Вам — пра Хомку, а Вы — пра Яромку" ад 23.07.2000г., так і хочацца сказаць настаўніцы роднай мовы і літаратуры Марыі Верціхоўскай шчырае дзякуй. Хоць адзін чалавек вельмі аб'ектыўна, шчыра, граматна даў ацэнку дзейнасці настаўнікам роднай мовы Хаміцкай сярэдняй школы Калінкавіцкага раёна, як яны адносяцца да роднага слова, да нацыянальнай беларускай культуры, да яе багатай спадчыны. Яны, напэўна, забыліся словы паэта-дэмакрата Ф.Багушэвіча: "Мова наша такая ж людская, як і іншая якая".***

Я ўсё сваё свядомае жыццё аддаў школе, дзецям, выкладаў родную мову і літаратуру. Адпрацаваў у школе аж 45 гадоў, а таму не па чутках, а рэальна ведаю, як і ў тыя далёкія (50 — 80) гады асобныя "настаўнікі" адносіліся да роднай мовы, да роднага слова.

Чаго толькі не здаралася, чаго толькі не было! У школу ішлі ўсе, каму толькі хацелася ісці. Па розных абставінах ішлі. Хто паступіць нікуды не мог, хто праваліўся на экзаменах у ВНУ. У каго была "касматая" рука, станавіліся амаль ці не "карыфеямі", "заслужанымі настаўнікамі". Але яны былі на віду да таго часу, пакуль не прыязджала ў школу інспектарская праверка. Тады гэтыя настаўнікі ішлі ў клініку, бралі ўсякімі праўдамі і няпраўдамі лісткі непрацаздольнасці. І тады завуч школы прасіў мяне: "Ідзі, Павел Давыдавіч, падмяняй, праводзь урокі". І я ішоў, бо ў мяне была сямейка — чацвёра дзяцей патрэбна было і вучыць, і карміць, і апранаць. І тады не жылося настаўніку лягчэй. Такога доўгага дэкрэтнага адпачынку для настаўніц-матуль, як зараз, не было. Настаўнік усюды павінен быў паспяваць, бо ён быў і "жнец, і швец, і на дудзе ігрэц".

Усё сваё свядомае жыццё я пражыў у Хойніках, ведаю большасць настаўнікаў раёна як сапраўдных патрыётаў сваёй справы, сапраўдных прафесіяналаў, якія аддаюць дзецям сваю душу.

Шмат маіх выпускнікоў закончылі педвузы, працуюць настаўнікамі-славеснікамі. Пры сустрэчы з імі вельмі лёгка размаўляць, добра ведаюць яны роднае слова. Але мне хочацца ў сваёй карэспандэнцыі перш за ўсё падзяліцца думкамі аб тым, як мне дапамагала ў жыцці роднае слова.

Неяк ў 70-я гады мне прыйшлося ехаць у сонечную Грузію купіць матацыкл "ІЖ" з люлькаю. Патрэбна было закампасціраваць білет на чыгуначнай станцыі Харкава. Хто быў у тыя далёкія гады на вакзале ў Харкаве, ведае як там "лёгка" было купіць або хаця б закампасціраваць праязны білет. Там былі чэргі ў 5 — 7 радоў, падыйсці да касы практычна было немагчыма.

І вось я разгубіўся канчаткова. Іду па вакзалу, і міжволі ўспомніліся словы з верша Ф.Багушэвіча "Бог не роўна дзеле". Толькі я прачытаў першыя два радкі, як да мяне звярнуўся малады чалавек, гэтак гадоў 25 — 30, што ішоў насустрач. Ён пачуў словы з верша і пытае:

— А чаго тут беларус аказаўся?

Я яму ўсё шчыра расказаў, а ён уважліва выслухаў мяне, узяў пад ручку, вядзе да білетнай касы, просіць, каб як мага хутчэй мне закампасціравалі білет. Вось такое было!

Яшчэ хочацца прыгадаць і такі цікавы выпадак у маім жыцці. Пасля Чарнобыльскай катастрофы я адпачываў у санаторыі "Каштан" горада Трускаўца Львоўскай вобласці. Там вельмі вялікая адкрытая танцавальная пляцоўка. І вось на гэтай пляцоўцы мяне пазнаў былы вучань, якога я вучыў гадоў 25 назад, ён пачуў, як я размаўляю па-беларуску. Яму было вельмі прыемна пачуць роднае слова, яно нагадала яму пра родны край, пра сваю бацькаўшчыну, пра роднае беларускае Палессе, пра хойніцкую зямлю, пра яе працавітых людзей.

У маім жыцці сустракаліся і такія "настаўнікі-славеснікі", якія публічна, перад вучнямі адкрыта заяўлялі, што "ты са сваёй беларускай мовай дойдзеш ад школы да аўтобуснага прыпынку".

Мова наша будзе жыць доўгія вякі і цэлыя тысячагоддзі, таму што яна дадзена нам, беларусам, самім Богам. І прыйдзе той час, калі мы ўсе загаворым на роднай, матчынай мове.

Я ўжо больш сямі гадоў не працую ў школе, але жыву думкамі і марамі аб ёй, радуюся, што маю настаўніцкую справу працягвае мая старэйшая дачка Святлана Навумаўна Бутаўтас, якая працуе настаўніцай англійскай мовы ў Блонскай сярэдняй школе Пухавіцкага раёна.

Барацьба за родную мову, за родную культуру — гэта барацьба за дэмакратыю, за свабоду беларускага народа. Хочацца закончыць сваю невялічкую карэспандэнцыю словамі з паэмы П.Броўкі "Беларусь":

Зямля Беларусі, зялёныя долы!
З крыніц тваіх чыстых
пад шумнай вярбой
Зачэрпнулі думы Купала
і Колас,
На кожнай сцяжынцы
іх песня і голас
З тваёю журбою
і ўцехай тваёй.

**Павел ЛЯГУН,**
**настаўнік, ветэран педагагічнай працы.**

З чаго пачынаецца патрыятызм

# Добрыя парывы клуба "Тарнада"

***Тактыка-спецыяльныя вучэнні падыходзілі да канца. На працягу тыдня падлеткі насіліся па лясах, здымалі вартавых, знішчалі аб'екты ўмоўнага праціўніка, рабілі днёўкі... Не-не ды і натыкаліся на мясцовых жыхароў. І тады ў вачах апошніх чыталася непадробная цікавасць: што робяць тут гэтыя хлапчукі? Але задаволіць цікаўнасць ім не ўдавалася — тыя знікалі ў лясным гушчары.***

Так праходзілі заняткі Мінскага ваенна-патрыятычнага клуба "Тарнада". Няхай не радавала падлеткаў надвор'е, але на яго, па вялікім рахунку, сур'ёзнай увагі ніхто не звяртаў. Фіналам спаборніцтваў стала змаганне дзвюх разведгруп. Першая — "Альфа" — павінна была трапіць у зададзены раён і сабраць каштоўныя звесткі аб праціўніку.

Хлапчукі разумелі — пастаўленая задача не з лёгкіх і патрабуе напружання ўсіх сіл. Ні ў кога з іх не выклікала нават усмешкі тое, што "зададзены раён" — гэта пашa, а "каштоўныя звесткі аб праціўніку" — вызначэнне дакладнай колькасці кароў, якія мірна скублі там траўку. Праўда, не пераадолеўшы цяжкіх кіламетраў па лясных сцяжынах, выканаць задачу немагчыма. Перашкаджала гэтаму і другая разведгрупа "Брава", якая павінна была высачыць "Альфу" і "знішчыць".

Цэлы дзень прабіраліся хлапчукі па бураломах. На кожную разведгрупу выдаваліся нож і запалкі плюс недатыкальны запас — бляшанка тушонкі і бохан хлеба, якія, дарэчы, удзельнікі "аперацыі" так і пакінулі некранутымі. Харчаваліся ягадамі, грыбамі...

І не важна, хто з іх каго тады перамог. Галоўнае — хлапчукі пераадольвалі самі сябе. Менавіта гэта і з'яўляецца адной з задач клуба.

— Мы перш за ўсё імкнемся выхаваць падлеткаў сапраўднымі людзьмі, — гаворыць мне дырэктар "Тарнада" Аляксей Слінько. — І назву клуба яны самі прыдумалі. Тарнада — вецер перамен. Змяняюцца ў лепшы бок і нашы хлапчукі. Дарэчы, сярод іх шмат цяжкіх падлеткаў.

Днём нараджэння клуба лічыцца 15 кастрычніка 1998 года. Аляксей стаяў ля самых яго вытокаў. Пасля службы ў арміі (у брыгадзе спецыяльнага прызначэння ў Самарскай вобласці) вярнуўся на радзіму, у Беларусь. Працаваў целаахоўнікам. Потым з'явілася жаданне займацца з падлеткамі. Са звыклым у грамадстве сцвярджаннем, маўляў, кволая цяпер моладзь пайшла, пагаджацца не хацелася. Стварылі ваенна-патрыятычны клуб на базе 122-й сярэдняй школы Савецкага раёна сталіцы.

У клуб прымалі ўсіх жадаючых ва ўзросце ад 12 да 20 гадоў. Акрамя ваенных дысцыплін, упор рабіўся на рукапашны бой. Дарэчы, Аляксей Слінько — кандыдат у майстры спорту па гэтым відзе. Пасля таго як сацыяльная маладзёжная служба Савецкага раёна сталіцы дапамагла набыць маскі, трубкі, ласты, падлеткі сталі праходзіць падводную падрыхтоўку: зімой — у Палацы воднага спорту, летам — на Цнянскім вадасховішчы. З'явілася ў праграме і вышынная падрыхтоўка. Пад Мінскам, паблізу Ратамкі, "тарнадаўцамі" ўжо ўзяты, бадай, усе кар'еры. Інструктар — усё той жа Аляксей. Добра, што армейская падрыхтоўка дае магчымасць вучыць хлопцаў мужчынскай справе.

За два гады цераз "Тарнада" прайшлі ўжо каля ста дваццаці чалавек. Выпадковыя людзі тут надоўга не затрымліваюцца. Напрыклад, як толькі адкрыўся клуб, набегла каля сарака хлапчукоў. Пасля першага начнога трыццацікіламетровага паходу (з поўнай выкладкай, са знясільваючымі марш-кідкамі і іншымі невясёлымі атрыбутамі армейскіх будняў) у "Тарнада" засталіся ўсяго дзесяць падлеткаў. Сёння клуб ізноў налічвае ў сваім складзе каля пяцідзесяці чалавек. Ёсць нават адна дзяўчына — Таццяна Пацэвіч (прадстаўніцам цудоўнага полу запісвацца ў "Тарнада" не забараняецца).

Падтрымліваюць "тарнадаўцы" цесны кантакт з брыгадай спецыяльнага прызначэння ўнутраных войскаў, з асобным разведвальным батальёнам 120-й гвардзейскай Рагачоўскай мотастралковай дывізіі. Праводзяць на іх базе заняткі. Дапамаглі воіны агульнавайсковымі статутамі, арганізавалі для членаў клуба стрэльбы з аўтамата Калашнікава.

Дарэчы, знаёмства з арміяй — падлеткам толькі на карысць. Служыць яны ідуць з жаданнем. Нядаўна трапіў у брыгаду спецыяльнага прызначэння Віталь Сушчыц. Рыхтуецца да гэтага і Дзмітрый Верамейчык. Своеасаблівую пуцёўку ў элітныя часці (па ўзгадненні з іх камандаваннем) дае кіраўніцтва клуба. На другім курсе Мінскага суворускага вучылішча вучыцца Ігар Шыманскі. Сёлета сюды ж паступіў Іван Гота.

Ваенна-спартыўныя гульні, якія нядаўна прайшлі ў Калінінградзе, сталі сур'ёзнай вехай у гісторыі "Тарнада". Пры дапамозе начальніка аддзела па справах моладзі Мінгарвыканкама Сяргея Зубовіча і сакратара Мінскага гаркама БПСМ Генадзя Абакшонка прыняла ўдзел у гэтых спаборніцтвах і беларуская каманда.

Дарэчы, праводзяцца гэтыя спаборніцтвы на даволі высокім узроўні, два разы на год. Удзельнічаюць у іх як ваенна-патрыятычныя клубы, так і каманды ад воінскіх часцей. Удзельнікі падзяляюцца на два разрады — група "Альфа" (узрост ад 17 да 30 гадоў) і група "Бэта" (ад 14 да 17). Прадстаўнікі Беларусі прыехалі ў Калінінград упершыню. Выступалі ў групе "Бэта".

У Калінінград цягнік прыйшоў раніцай. Пасля важданіны на мяжы спаць хлапчукам так і не давялося. Удзельнічаць у спаборніцтвах прыехалі сорак расійскіх каманд. Беларусы, паводле жэрабя, выступалі пятнаццатымі. Пакуль разміналіся, звярнулі ўвагу на экіпіроўку расіян. Адчувалася — недахопу ў фінансаванні яны не маюць. У кожнай каманды па некалькі прафесійных інструктараў. Канешне, нашы выглядалі не горш. Дзякуй воінам спецназа — дапамаглі з абмундзіраваннем, і разведчыкам 120-й дывізіі — выдзелілі сапёрныя лапаткі і рукзакі дэсантнікаў. У школе ўзялі проціваагазы. Удзельнікаў спаборніцтваў Аляксей Слінько адбіраў асабіста. Арганізаваў марш-кідок на пяць кіламетраў. А каб ён не падаўся лёгкай прабежкай, кінуў кожнаму хлопцу па некалькі цаглін у рукзак. З мацнейшых сфарміраваў каманду.

Спаборніцтвы заключаліся ў пераадоленні шасцікіламетровай дыстанцыі, якая падраздзялялася на дваццаць чатыры этапы: пераадоленне водных перашкод, інжынерных загарод, стральба з пнеўматычнай вінтоўкі, кіданне гранат, сапёрных лапатак, нажоў...

Многім камандам-удзельніцам і ў карту заглядваць не прыходзілася, каб удакладніць маршрут руху — не ўпершыню на спаборніцтвы прыязджаюць, усё ведаюць, як свае пяць пальцаў. Беларусам было больш складана.

Выбягалі групы з інтэрвалам у тры хвіліны. Нашы хлопцы ўжо на маршруце абагналі дзве каманды. "Тарнадаўцы" хутка пераадолелі водную перашкоду (па пояс у халоднай вадзе), паспяхова выйшлі ў эфір па радыёстанцыі, у рукапашнай схватцы павалілі чатырох праціўнікаў (у ролі якіх выступалі вайскоўцы-кантрактнікі). Справіліся і з пераноскай параненага. Па ўмовах спаборніцтваў у яго быў пашкоджаны пазваночнік. Як і трэба, неслі пацярпелага на плашч-палатцы, што стала амаль рэдкім выключэннем на фоне іншых каманд. Бо многія каманды, эканомячы каштоўныя хвіліны, ратавалі "аднапалчан" магчымымі і немагчымымі спосабамі. Былі і такія "параненыя2, страшэнная немач якіх не перашкаджала ім бегчы падскокам за сваімі таварышамі.

Канешне, і мы атрымлівалі штрафныя ачкі (за няўдалае кіданне нажоў, за стральбу). За кожную такую памылку даводзілася паўзці дваццаць метраў пад калючым дротам, рассякаючы ў кроў яе шыпамі галовы. Хвілін пяць патрацілі, калі блудзілі ў балоце.

Але самыя цяжкія, бадай, былі апошнія пяцьсот метраў дыстанцыі. Бегчы па мокрым пяску залива ногі адмаўляліся. Але ніхто з хлопцаў не спыніўся. І фінішавала група, у адрозненне ад многіх каманд, у поўным саставе. Шмат у чым — дзякуючы свайму настаўніку Аляксею Слінько, які па ўласнай ініцыятыве бег ззаду, усяляючы ў выхаванцаў упэўненасць у сваіх сілах.

Пры падвядзенні вынікаў высветлілася, што нашы хлопцы — сёмыя. Але, гледзячы на беларусаў, суддзі спаборніцтваў прынялі рашэнне акрамя прызоў за першыя тры месцы заснаваць дадатковы — "За волю да перамогі". Набор кніг "Падрыхтоўка па сістэме спецназа ГРУ" і адпаведныя дыпломы ўдзельнікам ляглі ў скарбонку "Тарнада". Вядома, запрасілі клуб прыняць удзел і ў чарговых ваенна-спартыўных гульнях, якія адбудуцца вясной.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Летам наступнага года аддзел па справах моладзі Дзяржлумы Калінінградскай вобласці плануе правесці сумесны расійска-беларускі экстрэмальны летнік. Яго ўдзельнікі — расійскія школьнікі. У ролі ж інструктараў выступяць "тарнадаўцы". Хлопцы адчуваюць, што ім такая задача па плячы. Поспехі "Тарнада" ўсяляюць упэўненасць у гэтым.

**Святлана МАКАРАВА.**

З гісторыі адукацыі

# Першынец Міншчыны

***Пачатак новага, 1922-га, года паклаў канец існаванню на Беларусі самастойнай вышэйшай навучальнай педагагічнай установы, якой быў Мінскі інстытут народнай адукацыі. Пасля расфарміравання ён не стаў базай педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта з-за неадпаведнасці іх вучэбных планаў і праграм, а з'яўляўся, як піша Яўген Новік, у гэтай новай навучальнай установе толькі "своеасаблівым працягам інстытута народнай адукацыі". Але, трэба думаць, працягам вельмі важным, таму што з апошняга прыйшло ў БДУ нямала і педагогаў, і студэнтаў, якія на працягу многіх гадоў працы і да канца вучобы захоўвалі і прымнажалі традыцыі сваёй колішняй навучальнай установы, што прайшла такі цяжкі і складаны шлях станаўлення і сталення.***

Педагагічны факультэт працаваў у складзе чатырох аддзяленняў: сацыяльна-гістарычнае (былое грамадска-педагагічнае аддзяленне факультэта грамадскіх навук), этнолага-лінгвістычнае, прыродазнаўчае і матэматычнае. Факультэтам кіраваў калектыўны орган — прэзідыум, на чале якога стаяў дэкан. Яго функцыі выконваў прафесар гісторыі У.Ігнатоўскі.

У 1922-23 н.г. педфак меў 780 студэнтаў. Самым вялікім па колькасці студэнтаў было яго сацыяльна-гістарычнае аддзяленне — 357 чалавек, затым этнолага-лінгвістычнае — 166. На прыродазнаўчым аддзяленні навучаўся 131 студэнт, на фізіка-матэматчным — 126. У наступныя гады педфак некалькі павялічыў набор студэнтаў. У 1924-25 н.г. тут вучыліся 1463 чалавекі, у той час як на двух астатніх факультэтах, разам узятых (медыцынскім і грамадскіх навук) — 1074 студэнты.

Раўналежна з забеспячэннем колькаснага росту студэнтаў педфака ў адпаведнасці з патрабаваннямі часу праводзілася работа па ўдасканаленні яго структуры, форм навучальнай і выхаваўчай работы са студэнтамі з тым, каб даць установам народнай адукацыі ва ўсіх адносінах добра падрыхтаваныя педагагічныя кадры.

Першы выпуск студэнтаў педфакультэт зрабіў у 1925 г., даўшы ўстановам адукацыі 110 спецыялістаў вышэйшай адукацыі. Больш палавіны іх колькасці прыпадала на сацыяльна-гістарычнае аддзяленне — 68 чалавек, этнолага-лінгвістычнае аддзяленне закончылі 29, прыродазнаўчае — 13 чалавек. У наступныя гады выпускі былі трохі большымі. Праз шэсць гадоў гэты факультэт ужо даў народнай асвеце 447 педагогаў, што перавышала выпускі па ўсіх іншых відах спецыяльнасцяў: урачоў было падрыхтавана 343, юрыстаў — 130, эканамістаў — 125.

Жыццё патрабавала падрыхтоўкі не толькі педагогаў вышэйшай кваліфікацыі, але і тых, хто мог бы стаць за кафедрай у якасці выкладчыка, дацэнта, а пазней і прафесара ВНУ альбо прафесійна займацца навукова-даследчай працай. Такія кадры рыхтавала ў нас аспірантура. Існавала яна і пры педагагічным факультэце БДУ. У 1927-28 н.г. у ёй вучылася 15 аспірантаў, у 1928-29 н.г. — 23, у 1929-30 н.г. — 32. Большасць выпускнікоў пасля заканчэння аспірантуры заставалася працаваць на педфакультэце ці на іншых факультэтах БДУ. Але некаторыя маглі ўладкоўвацца і па-за яго межамі, найчасцей за ўсё ў інстытутах Беларускай акадэміі навук.

Наяўнасць уласнай аспірантуры, побач з іншымі фактарамі, дазволіла дамагчыся пэўнага станоўчага зруху ў забеспячэнні педагагічнага факультэта высокакваліфікаванымі кадрамі. Калі на пачатку 1924-25 н.г. тут працавалі 22 прафесары і 27 дацэнтаў, дык на 1 студзеня 1929 г. адпаведна 25 і 35 чалавек.

Зусім неапраўданым трэба прызнаць ажыццяўленае з 1930-31 н.г. скарачэнне тэрміну навучання на педфаку з чатырох да трох гадоў. Толькі на фізіка-матэматычным аддзялені тэрмін навучання доўжыўся 3,5 года. Вызначыўшы для педфакультэта БДУ меншы тэрмін навучання, урад БССР у той жа час паставіў перад ім больш сур'ёзныя, чым раней, патрабаванні: рыхтаваць "настаўнікаў вышэйшай адукацыі толькі для агульнаадукацыйных школ з індустрыяльным і сельскагаспадарчым ухілам, а таксама для тэхнікумаў, рабфакаў і прафшкол.

Вырашаць гэтыя адказныя задачы выкладчыкам і прафесарам педфакультэта БДУ даводзілася ва ўмовах, калі ён ужо стаў самастойнай вышэйшай навучальнай педагагічнай установай.

Тая колькасць настаўнікаў, якую штогод выпускала стацыянарнае аддзяленне педфака БДУ, ніяк не магла задаволіць патрэбнасці Беларусі ў кадрах такой кваліфікацыі. Палепшыць становішча хоць у нейкай ступені меркавалася праз арганізацыю завочнай падрыхтоўкі будучых настаўнікаў. У першы набор (1929-30 н.г.) завочны сектар педфака прыняў 208 чалавек, а на наступны навучальны год — ужо 554 пры планавым заданні адпаведна 190 і 650 чалавек. З прынятых у 1929-30 н.г. на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні навучалася 109 студэнтаў, на педолага-педагагічным — 65, сацыяльна-гістарычным — 34. У другі (вясновы) прыём на першы курс завочнага адзялення залічылі яшчэ 400 чалавек.

У першыя гады дзейнасці педагагічнага факультэта БДУ ў якасці яго самастойнага структурнага падраздзялення даводзілася разам з падрыхтоўкай кадраў для ўстаноў народнай адукацыі вырашыць і яшчэ адну выключнай важнасці задачу. Сутнасць яе заключалася ў беларусізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу. Як вядома, беларусізацыі быў нададзены статус дзяржаўнай палітыкі ў ліпені 1924 г., калі другая сесія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта (ЦВК) прыняла пастанову "Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі". У яе першым пункце гаварылася пра неабходнасць паўсюднай арганізацыі школ, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў на беларусай мове. І гэта быў вельмі правільны крок, бо без стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі немагчыма ніякае духоўнае адраджэнне народа, а тым больш беларускага, які да моманту прыняцця названай вышэй пастановы панёс незлічоныя страты ў выніку шматгадовай паланізацыі і русіфікацыі. Яго інтэлігенцыя, у тым ліку і педагагічная, куды лепш сябе пачувала ў рускім ці польскім культурна-моўным асяроддзі, чым у беларускім.

Педфак БДУ, бадай, лепш за ўсе яго іншыя факультэты быў падрыхтаваны да беларусізацыі. У 1924-25 н.г. тут яшчэ толькі 17 дысцыплін выкладаліся на беларускай мове, затое праз год — 57. З агульнай колькасці адведзеных на чытанне дысцыплін (650 гадзін) на беларускай мове праведзена 252 гадзіны. (Настаўніцкая газета. 1995, 19 ліпеня). Не перабольшым, калі скажам, што даволі хуткія зрухі ў беларусізацыі педфакультэта ў значнай ступені тлумачыліся тым, што ў асяроддзі яго педагогаў былі і тыя, што некалі працавалі ў Мінскім беларускім педагагічным інстытуце, у Мінскім інстытуце народнай адукацыі, дзе пастуова праводзілася выкладанне прадметаў на беларускую мову. І для некаторых педагогаў цяпер такі перавод не ўяўляў аніякіх цяжкасцяў. Да таго ж яны выдатна разумелі, якую велізарную ролю ў справе нацыянальна-культурнага адраджэння краіны адыграе ўвядзенне беларускай мовы ў навучальна-выхаваўчы працэс. Сярод педагогаў гэтага факультэта практычна не назіралася выпадкаў падбухторвання студэнтаў на зрыў беларусізацыі.

Станоўча паўплывала на дачыненне студэнтаў да беларусізацыі тое, што яе безагаворачна прыняў накіраваны ў БДУ прафесар Іван Замоцін, рускі па нацыянальнасці. Яго працы па гісторыі беларускай літаратуры былі вельмі папулярнымі сярод педагогаў і студэнтаў. З ліку найбольш важных публікацый можна адзначыць наступныя: "Пуціны беларускай літаратуры (Я.Колас — "Новая зямля"), "Полымя", 1924, №1 (9); "Паэма Я.Коласа "Сымон-музыка" як аўтахарактарыстыка", "Полымя", 1926, №8; "Мастацкая літаратура ў школьным выкладанні", в.1 — 2, Мінск, 1927 — 1928; "Беларуская драматургія, ч. 1 — Драматычныя творы Я.Купалы", "Узвышша", 1927, №1; "М.А.Багдановіч. Крытыка-біяграфічны нарыс", №2, 3, 5.

Хутка і дасканала авалодаў беларускай мовай ураджэнец Сімбірскай губерні, прафесар Аляксандр Вазнясенскі, якога рэктар БДУ Уладзімір Пічэта характарызаваў як аднаго з самых таленавітых педагогаў. Калі ў А.Вазнясенскага ўзніклі пэўныя непаразуменні з калегамі і пачуліся галасы аб неабходнасці яго звальнення, У.Пічэта выступіў у абарону прафесара з такімі словамі: "Мы не так багаты навуковымі сіламі, каб аслабаняцца ад тых, якія ўкараніліся на Беларусі, і якія на працягу сямі год з энтузіязмам працавалі ў сценах Беларускага дзяржаўнага універсітэта". А што ён і сапраўды вызначаўся энтузіязмам, высокай творчасцю, сведчаць выдадзеныя ім за часы працы ва універсітэце (1921 — 1930) літаратуразнаўчыя творы: "Паэтыка М.Багдановіча", Коўна, 1926; "Асноўныя прынцыпы пабудовы беларускай навукі аб літаратуры", Мінск, 1927; "Паэмы Янкі Купалы (сюжэтная пабудова і стыль)", Мінск, 1927; "Ля вытокаў мастацкай прозы Якуба Коласа", "Полымя", 1928, №8, 1929, №№1 — 4 і шэраг іншых.

Шмат зрабілі па паскарэнні беларусізацыі на педфаку і многія іншыя прафесары небеларускай нацыянальнасці, у прыватнасці Пётр Бузук, у дзейнасці якога вельмі ўдала спалучаліся педагагічныя і навуковыя пачаткі. І ўсё ж душой беларусізацыі, бясспрэчна, з'яўляўся таленавіты вучоны і педагог, ураджэнец Рэчыцы Мітрафан Доўнар-Запольскі, які з восені 1925 г. заняў пасаду прафесара кафедры гісторыі Беларусі на педфакультэце БДУ. Вярнуўся ён на радзіму з Баку, дзе на працягу 1921 — 1925 гг. працаваў прафесарам ва універсітэце. Сваю першую ўступную лекцыю для студэнтаў педфака БДУ ён прачытаў у актавай зале 26 кастрычніка 1925 г. Прысутныя былі вельмі задаволены і ахвотна наведвалі заняткі, якія праводзіў прафесар. Гэтая важная старонка ў навукова-педагагічнай дзейнасці М.Доўнар-Запольскага зусім справядліва не абмінута ў кандыдацкай дысертацыі Пятра Кручака "М.В.Доўнар-Запольскі як вучоны і грамадскі дзеяч" (Мн., 1996). На аснове вывучэння рознабаковых крыніц ён робіць такую выснову: "Лекцыі вучонага адразу ж атрымалі вялікую папулярнасць сярод студэнтаў. На іх часта збіраліся не толькі студэнты педфака і факультэта гаспадаркі і права, але і студэнты іншых факультэтаў. Напрыклад, пастаяннымі слухачамі былі студэнты суполкі "Радня", якая існавала ў той час на медыцынскім факультэце... Лекцыі чыталіся на беларускай мове, аб чым вучоны марыў усё сваё жыццё. Высокай эрудыцыяй гісторыка, асабістымі якасцямі ён заваяваў адразу ж высокі атарытэт сярод студэнтаў".

У ліку тых, каму надоўга запомніўся вучоны-педагог М.Доўнар-Запольскі, была і студэнтка БДУ А.Саковіч (з лета 1944 г. сваё жыццё звязала з эміграцыяй). Яна такім запомніла любімага настаўніка падчас здачы экзамену ўвесну 1926 г.: "У той веснавы дзень праз адно з вокнаў бібліятэкі ўрываліся сонечныя косы, залаціліся ў сівых валасах прафесара, на адкладзеным каўнеры ягонай бранзовай аксамітнай кашулі і губляліся недзе ў запыленых пацямнелых тамох... Ягоны інтэлігентны энергічны від із шэрымі ўважлівымі вачыма на фоне пацямнелых тамоў быў падобны да абразоў навучоных сярэднявечча".

Было б памылкай праблему пераводу педфака на беларускую мову выкладання паказваць як штосьці зусім бесканфліктнае, незвычайна простае. Як-ніяк даводзілася ж карэнным чынам ламаць традыцыі ў дачыненні да ролі беларускай мовы ў навучальным працэсе. Не верылі ў такія магчымасці яе і некаторыя беларусы, не кажучы ўжо пра тых, хто нейкім чынам трапіў у наш край і ўладкаваўся на працу на педфак. Справа ў значнай ступені ўскладнялася тым, што заўзятым праціўнікам беларусізацыі аказаўся сам дэкан педфака БДУ Мікалай Нікольскі, сын вядомага рускага гісторыка-усходазнаўца, заснавальніка асірыялогіі ў Расіі, Міхаіла Нікольскага. Варожую вылазку супраць беларусізацыі ён зрабіў ужо на самым старце яе — у 1925-26 н.г. Рэктару універсітэта Уладзіміру Пічэту давялося зняць яго з пасады. Праўда, далейшы лёс Мікалая Нікольскага склаўся вельмі шчасліва, бо КП(б)Б патрэбны былі людзі з такімі поглядамі на нацыянальнае пытанне: з 1931 года ён узначаліў сектар этнаграфіі і фальклору Інстытута гісторыі Беларускай акадэміі навук, а з 1937 г. і самую гэтую навуковую ўстанову (да 1953 г.). Да вайны ён не напісаў ніводнай кнігі па гісторыі Беларусі.

Не заставаліся па-за ўвагай кіраўніцтва БДУ і іншыя спробы зрыву стаць педфаку на трывалы нацыянальны грунт. Усе тыпы агульнаадукацыйных школ рэспублікі інтэнсіўна пераводзіліся на беларускую мову і мелі вялікую патрэбу ў педагагічных кадрах, узгадаваных на нацыянальных культурна-моўных традыцыях. Гэта ж нонсэнс, калі вышэйшая і сярэдняя спецыяльная школы працуюць на адной мове, а агульнаадукацыйная — на другой. Прафесарска-выкладчыцкі састаў педфака рабіў многае і вынікова, каб ліквідаваць такога роду неадпаведнасць у адукацыі.

Зусім не такімі шчаслівымі і плённымі былі апошнія гады існавання педагагічнага факультэта БДУ. На іх выпала нешта такое, што можна назваць сапраўдным антыподам беларусізацыі. Ідэалагічнымі службамі бальшавіцкай партыі была аб'яўлена барацьба з так званымі беларускімі нацыянальнымі дэмакратамі (нацдэмамі). Такіх людзей зусім беспадстаўна абвінавачвалі ў спробах вярнуць у Беларусь дарэвалюцыйныя парадкі, адарваць яе ад СССР і далучыць да Польшчы, у непрызнанні нацыянальнай палітыкі савецкай дзяржавы, гвалтоўным укараненні беларусізацыі. Пачаліся масавыя арышты "нацдэмаў", у лік якіх найчасцей за ўсіх траплялі высокаадукаваныя асобы, апантаныя ідэяй беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Не выратаваліся і некаторыя прафесары і выкладчыкі педфака БДУ, бо тут не было недахопу ў людзях, якія вельмі блізка прынялі да сэрца праграму беларусізацыі і не шкадавалі сіл для яе правядзення ў жыццё. Цяпер яе ход яўна запаволіўся, а дзе-нідзе і павярнуў у адваротным напрамку. Асобы, што чыста фармальна прынялі ідэю беларусізацыі, пачалі зноў свае прадметы чытаць па-руску, не працавалі са студэнтамі, каб выхаваць іх шчырымі прыхільнікамі беларушчыны, сур'ёзнымі змагарамі за беларускую нацыянальную сістэму адукацыі. Аднак такія асобы заставаліся ў меншасці, і па-ранейшаму педфак паказваў іншым структурным падраздзяленням БДУ прыклад арганізацыі ўсяго навучальна-выхаваўчага працэсу ў адпаведнасці з патрабаваннямі палітыкі беларусізацыі.

Выкліканыя ў сувязі з барацьбой супраць "нацдэмакратаў" неспакой і трывога толькі прыпынілі тэмпы, зменшылі маштабы адраджэнскіх працэсаў, але не маглі прымусіць людзей цалкам адмовіцца ад іх. Ідэя пабудовы жыцця беларусаў на іх уласным нацыянальным грунце мела шматлікіх прыхільнікаў і не магла адразу страціць сваю папулярнасць сярод педагогаў і студэнтаў, як толькі з'явіліся праціўнікі беларусізацыі ў вышэйшых эшалонах партыйных і савецкіх органаў. Гэтая ідэя працягвала жыць, уплываць на ход вучобы і тады, калі педфак БДУ перарос у Мінскі вышэйшы педагагічны інстытут. За час свайго існавання (1921 — 1931) педфак падрыхтаваў 1565 спецыялістаў (55 працэнтаў ад агульнай колькасці выпускнікоў БДУ), з іх 476 выкадчыкаў грамадскіх дысцыплін, 336 лінгвістаў і літаратараў, 316 фізікаў і матэматыкаў, 526 біёлагаў. Яны ўнеслі неацэнны ўклад у навучанне і выхаванне маладых пакаленняў беларускага грамадства.

**Ефрасіння АНДРЭЕВА,**
**доктар педагагічных навук, прафесар.**
**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар.**

